СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.50, 17.53, 11.03;
Віцебск — 6.41, 17.42, 11.01;
Магілёў — 6.39, 17.43, 11.04;
Гомель — 6.32, 17.43, 11.11;
Гродна — 7.02, 18.11, 11.09;
Брэст — 7.04, 18.11, 11.07.

МЕСЯЦ:
Маладзік 4 сакавіка.

ІМЯНІНЫ
Льва, Агафона, Карніла; Андрыяна, Фрыдэрыка

# ЗВЯЗДА

5 САКАВІКА 1992 г.
чацвер, № 47 (21825)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.


## РОЗГАЛАС

### ПРАПАНОВЫ ЎНЕСЕНЫ. ЧАРГА ЗА ПАРЛАМЕНТАМ

Як ніколі быў насычаны парадак дня апошняга пасяджэння прэзідыума ўрада Беларусі. Ён вызначаўся як колькасцю пытанняў, так і іх надзвычайнай злабадзённасцю.

У першую чаргу былі грунтоўна абмеркаваны праекты законаў, якія ў хуткім часе будуць вынесены на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Трэба сказаць, што народ ужо даўно чакае прыняцця тых заканадаўчых актаў, адсутнасць якіх моцна стрымлівае паглыбленне эканамічнай рэформы. Сярод іх, бадай, самы актуальны «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці ў Рэспубліцы Беларусь». Дыскусія па гэтаму законапраекту яшчэ раз гэта пацвердзіла.

Возьмем прыватызацыю. Колькі ў свеце існуе падыходаў, але няма рэцэпта на ўсе выпадкі. Бясспрэчнымі, аднак, здаюцца наступныя палажэнні законапраекта: прыватызацыю праводзіць ва ўсіх галінах, акрамя аб'ектаў, якія могуць належаць толькі дзяржаве. У прыватызацыі дазваляецца ўдзельнічаць усім грамадзянам рэспублікі, юрыдычным асобам, замежным інвестытарам. Але, каб пазбегнуць злоўжыванняў у ходзе прыватызацыі, службовыя асобы не будуць мець гэтага права.

Не менш востра ішло абмеркаванне законапраектаў «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб праве ўласнасці на зямлю», «Аб ахове навакольнага прыроднага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб прадпрыемствах, арганізацыях і ўстановах, якія могуць знаходзіцца толькі ў дзяржаўнай уласнасці».

Пералічаныя законапраекты будуць прапанаваны сесіі Вярхоўнага Савета.

**Л. ТУГАРЫН.**

Учора калона грузавікоў з медыкаментамі, медыцынскім абсталяваннем, дзіцячым харчаваннем прыбыла з Германіі ў першую Мінскую клінічную бальніцу. Ля аднаго з будынкаў адбыўся невялічкі канфуз. Грузавік з медыкаментамі, які суправаджалі нямецкія паліцэйскія, падкаціў літаральна да ганка. Час пачынаць разгрузку, а дзверы ў будынак ніяк не адчыняюцца. Тады знайшлі сякеру і лом і з іх дапамогай дзверы нарэшце адчынілі. Не ведаю, што думалі ў гэтыя хвіліны немцы... Дапамога прыйшла значная — больш як на 1 мільён 200 тысяч марак.

НА ЗДЫМКУ: ідзе разгрузка гуманітарнай дапамогі.

Фота Мікалая **АМЕЛЬЧАНКІ.**

## СВАЯ СПРАВА?

Хацелі б вы мець сваю справу, стаць уладальнікам завода, майстэрні, кафэ, магазіна ці іншага прадпрыемства?

З такім пытаннем звярнулася сацыялагічная служба УЦДГД (Масква) да жыхароў дзяржаў былога СССР. Агенцтва ДАТА пазнаёміла з вынікамі гэтага рэпрэзентатыўнага апытання. Думаем, што прыведзеная ніжэй табліца будзе цікавай і для жыхароў нашай рэспублікі, у тым ліку тым 298 грамадзянам Беларусі, якія прынялі ўдзел у апытанні.

На пастаўленае пытанне было дадзена тры варыянты адказу. Вось як адказвалі ў розных рэспубліках (у працэнтах да агульнай колькасці апытаных).

| | Расія | Украіна | Беларусь | Эстонія | Грузія | Узбекістан |
|---|---|---|---|---|---|---|
| У мяне ўжо ёсць свая справа | 1 | менш аднаго | менш аднаго | 3 | 5 | 2 |
| Хацеў бы | 31 | 28 | 15 | 34 | 45 | 26 |
| Не хацеў бы | 49 | 49 | 79 | 45 | 32 | 46 |

Як бачым, пазіцыя жыхароў нашай рэспублікі наводзіць на пэўны роздум. Для каго сумны, для каго — наадварот.

**«Агенцтва РІД».**

## ДРЫЖЫКІ Ў МАГАЗІНЕ

Дзве жанчыны стаялі ля прылаўка гаспадарчага магазіна і вялі сумную размову.

— З глузду, відаць, з'ехалі на тым заводзе ліцця і нармалей «Гомсельмаша», — казала адна. — Каб часночніца каштавала 300 рублёў?

— А колькі яна каштавала раней? — пацікавіўся я ў прадаўшчыцы.

— Каля траячкі, — быў адказ. — Вось ляжаць, і ніхто іх не бярэ.

Не купляюць не толькі часночніцы, а і іншыя вырабы гэтага ж прадпрыемства: навясныя замкі і помпы ручныя. Прычына вядомая: зроблены яны з жалеза, а цэны—нібы за залатыя. Замок каштуе 277, а помпа — 5.320 замест ранейшых 8 і 30 рублёў.

Заходжу ў другі магазін. І там такі ж самы малюнак. Падушка Гомельскага завода хімічных вырабаў «пацягнула» больш чым на 800 рублёў, садова-агародная каляска Мазырскага завода меліярацыйных машын — на 2.468 рублёў. Ды гэта ж палавіна ранейшай цаны «Запарожца»!

Ва універмагу «Гомель» даведваюся аб тым, што за студзень там не рэалізавана ніводнага спартыўнага касцюма Светлагорскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно», усяго шэсць з 3.230 куртак са штучнага футра і сем з 80 люстраў гомельскага аб'яднання «Карал».

Магчыма, у людзей начыста знік попыт на гэтыя і іншыя тавары? Можа, яны ўжо забяспечаны імі? Ды не. Проста бачыць вока, ды... Да непамерна раздутых цэн, якія па волі манапалістаў-вытворцаў узраслі ад 10 да 100 разоў, дабавіліся і купоны. Таму і забіты таварамі склады, таму прадпрыемствы не могуць пашырыць іх выпуск і ідуць на скарачэнне персаналу. Вось і ўзнікаюць у людзей пытанні: каму гэта ўсё выгадна?

**У. ПЕРНІКАЎ.**

# ЗАЯВА

## Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Паважаныя суайчыннікі, грамадзяне суверэннай Рэспублікі Беларусь!

Звяртаемся да вас у няпросты для нашай гісторыі час, у час найскладанейшай палітычнай і эканамічнай сітуацыі, трывогі і неспакою аб будучыні.

Нарастаючая нестабільнасць не можа пакідаць абыякавым нікога. Але адна справа, калі стымулюючым матывам дзеянняў становяцца боль і трывога за лёс рэспублікі, яе народа, іх будучыні, імкненне знайсці выйсце з цяжкага становішча, і зусім іншае, калі пад прыкрыццём дэмакратычных пераўтварэнняў распачынаюцца спробы выклікаць узмацненне сацыяльнай напружанасці і процістаянне ў грамадстве.

Мы лічым нармальнай з'явай крытыку дзейнасці Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. І ўсё ж не можа не хваляваць тое, што існуюць дзеячы і рухі, якія імкнуцца пераканаць грамадства, што дастаткова распусціць цяперашні парламент, абраць новы і справы адразу пойдуць на лад. Для іх і ўрад цяперашні не ўрад, і ўсё астатняе трэба ламаць-крышыць не шкадуючы. Пры ўсім гэтым яны не маюць рэалістычнай праграмы аздараўлення эканомікі, не кажучы ўжо аб канкрэтных клопатах пра дабрабыт народа. Відавочна, закладваюцца новыя праблемы, калі не сказаць — бедствы.

У дадзенай сітуацыі спробы паказаць Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь адзінымі вінаватымі ў распадзе эканомікі, падзенні жыццёвага ўзроўню людзей, іншых негатыўных з'явах гэта не што іншае, як імкненне аслабіць дзяржаўную ўладу, узмацніць крызісныя працэсы.

У дзейнасці цяперашняга Вярхоўнага Савета сапраўды ёсць нямала недахопаў. Не ўсім дэпутатам хапае прафесіяналізму, умення і жадання падпарадкоўваць ведамасныя інтарэсы агульнадзяржаўным. Склад Вярхоўнага Савета адлюстроўвае тыя няпростыя працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве. І ўсё ж сёння мы можам смела гаварыць пра паступовае станаўленне Вярхоўнага Савета як вышэйшага заканадаўчага органа рэспублікі.

З органа, дубліруючага саюзныя рашэнні, ды і не толькі саюзныя, ён ператварыўся ў самастойны заканадаўчы орган. За час работы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прынята шмат заканадаўчых актаў, накіраваных на станаўленне і рэгуляванне новых грамадскіх адносін, замацаванне дзяржаўнага суверэнітэту і самастойнасці рэспублікі, правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян. Сярод іх — Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, наданне ёй статуса канстытуцыйнага Закона, законы аб уласнасці, прадпрыемствах, арэндзе, зямлі, сялянскай (фермерскай) гаспадарцы, грамадзянстве. Гэтыя і шэраг іншых законаў накіраваны на развіццё ўсіх форм уласнасці, замацаванне эканамічнай самастойнасці рэспублікі, развіццё эканомікі, свабоднага прадпрымальніцтва, стварэнне ўмоў для шырокага праяўлення гаспадарчай ініцыятывы.

Распрацаваны і вынесены на народнае абмеркаванне праект Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь. У новай Канстытуцыі чалавеку забяспечваюцца эканамічныя і палітычныя свабоды, сацыяльная абарона, рэальная магчымасць удзелу ў вырашэнні важнейшых дзяржаўных пытанняў. Зараз праект дапрацоўваецца з улікам заўваг і прапаноў грамадзян і, будзем спадзявацца, хутка стане Законам нашага жыцця.

Шмат вострых стрэлаў выпушчана ў адрас урада. У пэўнай меры крытыка заслужаная. Аднак будзем аб'ектыўныя. Рэалізуючы дзяржаўную праграму стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва, якую адобрыў парламент, у мінулым годзе ўдалося спыніць спад вытворчасці, забяспечыць больш высокі, чым у іншых дзяржавах СНД, узровень сацыяльнай абароны насельніцтва.

У рэспубліцы ўзяты і рашуча праводзіцца курс на структурную перабудову эканомікі і канверсію, папярэджанне негатыўных вынікаў вымушанай лібералізацыі цэн, зніжэнне ціску падатковага прэсу на працоўныя калектывы і насельніцтва.

Улічваючы крайне складаную абстаноўку, асабліва ў буйных вытворчых калектывах былых саюзных прадпрыемстваў, кіраўніцтва рэспублікі падрыхтавала і забяспечыла падпісанне кіраўнікамі краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў важнейшых пагадненняў па пытаннях гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, узаемадзеяння ў галіне фінансава-крэдытнай палітыкі. Скажам прама, вырашэнне многіх праблем эканамічнага характару магчыма іменна дзякуючы ўдасканаленню адносін з маладымі дзяржавамі Садружнасці.

Побач з гэтым рэалізуюцца практычныя крокі, якія забяспечваюць уступленне нашай рэспублікі ў міжнародныя фінансавыя арганізацыі: Сусветны і Еўрапейскі Банкі Рэканструкцыі і Развіцця, Міжнародны Валютны Фонд. Устанаўліваюцца дыпламатычныя, эканамічныя, культурныя сувязі з іншымі краінамі. Усё гэта адкрывае надзейныя перспектывы ўсебаковай інтэграцыі Рэспублікі Беларусь у сусветнае супольніцтва, стварае добрыя перадумовы ўздыму яе эканомікі. Вядома, што палітычная стабільнасць рэспублікі становіцца ледзь ці не самым рашаючым фактарам, які дазваляе ператварыць гэтыя перспектывы і перадумовы ў рэальнасць.

Удасканаленне работы законна выбраных народам органаў улады адбываецца ў абстаноўцы адкрытасці і галоснасці. Вярхоўны Савет, Савет Міністраў імкнуцца вырашаць і вырашаюць карэнныя для эканомікі і палітычнага жыцця рэспублікі праблемы. Аднак якраз гэта і не задавальняе тых, хто імкнуўся прыйсці да ўлады і не прыйшоў да яе. З вуснаў асобных лідэраў грамадска-палітычных рухаў і партый ва ўльтыматыўнай форме гучаць усё новыя і новыя патрабаванні, заклікі да адстаўкі існуючых структур дзяржаўнай улады праз рэферэндум.

Але будзем шчырымі, сёння толькі пачаўся працэс нараджэння палітычных партый. Яны нешматлікія, набіраюцца вопыту і пакуль не адлюстроўваюць усю гаму інтарэсаў насельніцтва. Таму яшчэ рана гаварыць аб рэальнай многапартыйнасці ў нашым грамадстве.

Наіўна было б думаць, што роспуск Вярхоўнага Савета і правядзенне датэрміновых выбараў на падставе закона, якога яшчэ і няма, дазволяць адразу вырашыць праблемы, што накопліваліся дзесяцігоддзямі. Трэба глядзець праўдзе ў вочы: гэта ўскладніць і без таго цяжкае становішча народа, замарудзіць вырашэнне неадкладных задач, прывядзе да расколу грамадства. Акрамя гэтага, будуць пушчаны на вецер не менш сотні мільёнаў рублёў, адцягнуты ад непасрэдных спраў дзесяткі тысяч працаздольных людзей.

Будзем жа разважлівымі, не трэба злоўжываць свабодай і дэмакратыяй, якіх мы так чакалі, да якіх так доўга і цяжка ішлі. Няхай лозунгам дня стане актыўны рух усіх уплывовых сіл у кірунку: ад барацьбы за ўладу — да ўмацавання ўлады, ад моцнай улады — да сумеснай стваральнай працы, да дасягнення эканамічнай і палітычнай стабільнасці ў грамадстве, у нашай суверэннай Рэспубліцы Беларусь.

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**
**САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

4 сакавіка 1992 года.

# КУРС РАНЕЙШЫ: РЭФОРМЫ

### *Брыфінг Станіслава Шушкевіча для беларускіх і іншых журналістаў*

Сустрэчу з журналістамі наш Старшыня Вярхоўнага Савета пачаў бліц-уступам — літаральна на дзве-тры хвіліны. Пра тое, што ёсць дзве катэгорыі палітыкаў. Першая з іх дакладна і чотка ведае, што рабіць, але не робіць, як сама ж сцвярджае, па той прычыне, што яе не дапускаюць да ўлады. Мой сусед, хуткі на слова дэпутат-журналіст, тут жа прадоўжыў лагічны рад: другая сіла мае ўладу, але не ведае, што рабіць. Варыянт Шушкевіча быў крыху іншым: тыя, хто ля ўлады, іншы раз проста не ў стане дзейнічаць знешне эфектна, бездакорна, бо мусяць браць у разлік не нейкія ідэальныя, абстрактныя сітуацыі, а рэальныя, абцяжараныя мноствам няўвязак, недарэчнасцей, перашкод. Усё зруйнаваць (па аналогіі з не такой ужо далёкай гісторыяй) прасцей, чым наладзіць стваральныя механізмы з таго, што ёсць. Вярхоўны Савет ідзе раней не вядомым, не правераным на прадмет ухабаў шляхам, а таму здараюцца і памылкі. Але іх можна скарэкціраваць, выправіць, калі ёсць галоўнае — адказнасць, крытычнае асэнсаванне зробленага і нязробленага. Яны —ёсць, таму ўсчаць рэферэндум з мэтай разгону існуючых уладных структур значыць загубіць пачатае, не даць узмацнець таму станоўчаму, што напрацавана.

Але ж напрацоўваецца, пярэчылі журналісты, не толькі станоўчае. Нярэдка прапановы, у тым ліку і самога Старшыні ВС, проста павісаюць у паветры, блакіруюцца, не знаходзяць вырашэння. Адзін маленькі прыклад. Колькі часу Старшыня не мае свайго першага намесніка, прапановы наконт таго, каб мець на гэтай пасадзе дэмакратычнага чалавека з сучасным мысленнем, старанна перакрэсліваліся з дапамогай кнопак. Дзе гарантыя, што такі ж лёс не напаткае новую, усцешную для яго ініцыятыву Станіслава Шушкевіча аб рэфармаванні Вярхоўнага Савета? Ці ёсць у Старшыні дастаткова паўнамоцтваў, каб настояць на сваім, ажыццявіць намечанае? Бо можна ўявіць сабе, якой будзе рэакцыя тых, каго будуць рэфармаваць. Асабліва тых, хто так і не здолеў праявіць у парламенцкіх буднях такую ж волю, кемлівасць, творчасць, як у барацьбе за дэпутацкі мандат.

Ніякіх гарантый, ніякіх асаблівых паўнамоцтваў, прызнаўся С. Шушкевіч, няма ні ў Старшыні, ні нават у Прэзідыума. Ёсць права заканадаўчай ініцыятывы, і яно будзе выкарыстана — настойліва, абгрунтавана, у спадзяванні на поспех. Гэты састаў парламента паказаў, што здольны на разумныя, граматныя рашэнні і, думаецца, ён нямала здольны зрабіць у тым жа рэчышчы. Няхай перамогуць, працягваў Станіслаў Шушкевіч, — не мае прапановы — могуць быць і лепшыя! Фармаванне ВС — сродак да больш плённай работы, але не канчатковая мэта. Трэба дабіцца ўмацавання выканаўчай улады, выпрацаваць механізмы кантролю за ажыццяўленнем рашэнняў. Пакуль што ідуць размовы аб раздзяленні заканадаўчай і выканаўчай улад, а народныя дэпутаты тым часам пакрысе ўваходзяць у структуры выканаўчай улады. Каму на карысць такі сімбіёз? Вось таму і патрэбны рэформы.

С. Шушкевіч яшчэ раз паказаў вернасць сабе — рэфарматару, а не рэвалюцыянеру. Адзінае, у чым можна засумнявацца: а ці не надта зацягваецца гэты перыяд рэформ? З тым жа Вярхоўным Саветам. Канешне, можна дачакацца, пакуль тыя з народных дэпутатаў, хто жадае, зоймуць аблюбаваныя крэслы ў структурах Саўміна (і адпаведна ніжэй). Але ці заўсёды будзе гарантыя, што сённяшнія законы прымаюцца без уліку свайго заўтрашняга інтарэсу?

Ці яшчэ адно. Адназначна выказаўшыся супраць рэферэндума, Станіслаў Станіслававіч на працягу ўсёй размовы (не толькі сённяшняй) згадваў пра тое, што перамены ў многім блакіруюцца адстаўной партнаменклатурай, якая ўпэўнена заняла кіраўніцкія кабінеты ў Саветах. Дастаткова, гаварыў ён, паглядзець тэлефонныя даведнікі — прозвішчы засталіся тыя ж. Але калі раней у раёне было дзве сілы— сакратар райкома партыі і старшыня райвыканкома і тым самым быў хоць нейкі ўзаемакантроль, то зараз усё ў адных руках, і застаецца толькі маліцца аб высокай маральнасці кіраўніка.

А цяпер вельмі коратка пра тое, пра што яшчэ ішла размова на брыфінгу і што можа найбольш зацікавіць чытачоў.

**Адносіны да партыі Народнай згоды, з'езд якой рыхтуецца?** — У нас столькі партый, якія гавораць аб згодзе, заклікаюць да яе, але мэты тым не менш ва ўсіх розныя. Трэба разабрацца, з кім народная згода мяркуе згаджацца.

**Якое ўражанне пакінулі сустрэчы з лідэрамі афіцыйных і незалежных прафсаюзаў?** — Афіцыйныя прафсаюзы дагэтуль стаяць на даперабудоўчым грунце, імі кіруюць людзі партыйнай загартоўкі. Яны здольныя толькі патрабаваць, слаба ўлічваючы абстаноўку. А вось пры сустрэчы з рухам, які ўзначальвае Собаль, быў уражаны: вялізны якасны скачок у свядомасці, у гэтага руху ёсць будучыня.

**Адносіны да мяркуемага з'езда народных дэпутатаў неіснуючай дзяржавы, маецца на ўвазе СССР.**—Гэта ідэя абсурдная. Наш парламент прыняў рашэнне па народных дэпутатах СССР, і яго трэба выконваць. Актыўнасць праяўляюць зноў жа партакратычныя дэпутаты. Але гэтая спроба асуджана на правал.

**Ці будзе існаваць адзіная інфармацыйная прастора на тэрыторыі СНД, у тым ліку і на Беларусі? Іншымі словамі, ці будзем мы фінансаваць, у прыватнасці, першы канал Астанкінскага тэлебачання?**— Фінансавацца не будзе тое, што іранічна, зняважліва ставіцца да нашай рэспублікі. Былі выпадкі, калі Маскоўскае тэлебачанне дапускала зняважлівыя, няпраўдзівыя перадачы ў адносінах да Украіны, ды і да Беларусі. Шлях адзін: падтрымку атрымаюць тыя каналы, якія ва ўсім свеце лічацца найбольш праўдзівымі. (Прагучала станоўчая спасылка на Сі-эн-эн).

**Нацыянальная валюта. Вы яе прыхільнікі ці праціўнікі?** — Сёння ўвядзенне ўласнай валюты пагражае рызыкай фантастычнай дэвальвацыі. Наша валюта пакуль што не будзе канверсуемай, а таму пакуль выратавальным застаецца знаходжанне ў рублёвай зоне.

**Ці ёсць у ВС прагнозы наконт магчымых сацыяльных узрываў — такіх, як красавіцкі мінулага года?** — Прагназіраванне — справа сацыёлагаў. Прагнозы будаваць не варта, тым больш у такой небяспечнай справе. Але ўсцешным з'яўляецца тое, што свядомасць людзей расце, яны з разуменнем ставяцца да цяжкасцей і захадаў па выхаду з крызісу. Хочацца спраўдзіць іх надзеі.

Застаецца дадаць адно: хочацца спадзявацца...

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

## ВЯРТАННЕ НАЗАД ЦІ ПУСТАЯ ТРАТА ЧАСУ?

### НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ СССР АБ З'ЕЗДЗЕ 17 САКАВІКА

**Недзе ў сярэдзіне лютага мы атрымалі паведамленне з Масквы: створана і ўжо дзейнічае арганізацыйная група па скліканню 17 сакавіка нечарговага з'езда народных дэпутатаў... СССР. На ім мяркуецца ўзняць пытанні аб законнасці актаў утварэння СНД, спынення дзеяння Канстытуцыі і кіруючых органаў СССР.**

**За тлумачэннямі і каментарыямі мы вырашылі звярнуцца да былых народных дэпутатаў СССР ад нашай рэспублікі. Знайсці сёння іх — справа нялёгкая, яшчэ цяжэй аказалася разгаварыць некаторых. І тым не менш:**

**Леанід Дзюсаў:** Ведаеце, я ўжо даўно адышоў ад гэтых спраў і больш не хачу ўлазіць у вялікую палітыку. Хачу сказаць толькі адно: скасаваць статус народнага дэпутата такога ўзроўню мог толькі з'езд, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР або мае выбаршчыкі. Сесія рэспубліканскага парламента не мае права прымаць такія рашэнні. Але што адбылося, тое адбылося. Я паважаю сваю рэспубліку і яе законы. Што ж датычыць нечарговага з'езда дэпутатаў СССР — то я не бачу ў гэтым сэнсу.

**Мікалай Карпенка,** намеснік галоўнага ўрача Мінскай абласной бальніцы, тэрытарыяльная выбарчая акруга № 565.

— Усё раней трэба было рабіць...

**Уладзімір Еўтух,** эканамічны саветнік Дзяржснаба рэспублікі:

— Я нічога не чуў аб гэтым, і мне цяжка нешта канкрэтнае сказаць. Наша рэспубліка з'яўляецца суверэннай дзяржавай. Таму ехаць нам на гэты з'езд, калі ён адкрыецца, ці не ехаць, павінен вырашыць беларускі парламент. Яго рашэнне і павінна стаць арыенцірам для кожнага народнага дэпутата. Без такой дакладнай пазіцыі ні ў якім з'ездзе я не магу ўдзельнічаць.

**Марыя Карпенка,** рэдактар часопіса «Работніца і сялянка»:

— Час мінуў, і цяпер трэба прымаць рэальнасць такой, якая яна ёсць. Я ведаю, што працуе ініцыятыўная група, мне нават прыйшло запрашэнне прыехаць на гэты з'езд. У ім паведамляецца, што ў яго падтрымку сабрана звыш 400 подпісаў былых народных дэпутатаў СССР. Але, на маю думку, гэты з'езд не адбудзецца: гэтыя людзі ўжо нічога не змогуць зрабіць, нават калі і збяруцца — іх вельмі мала. З'езд трэба было правесці раней, яшчэ ў снежні. Я думаю, тады народныя дэпутаты прынялі б усе неабходныя дакументы і аб спыненні дзейнасці СССР, і Канстытуцыі краіны, заканадаўчых актаў. Карацей кажучы, усё павінна было быць у адпаведнасці з законам. Раздаваліся тады цвярозыя галасы аб скліканні гэтага з'езда, але іх ніхто не пачуў.

**Падрыхтаваў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ЦІ ДАЧАКАЕМСЯ ПЯЦІЗОРКАВЫХ?

**БРЭСТ. (Т. Гусева, РІД). Нямецкая фірма «Эльбабаўм» будзе фінансаваць будаўніцтва 4-зоркавага атэля ў горадзе над Бугам.**

**Праектны кошт будаўніцтва — 38,5 млн. марак. Гасцініца экстра-класа разлічана на 150 месц. У праекце будынка прадугледжаны памяшканні пад офісы 40 фірм.**

# Законы маюць патрэбу ў карэкціроўцы

Хоць з моманту прыняцця беларускім парламентам блока законаў аб падатках і крэдытна-фінансавай сістэме мінула ўсяго паўтара месяца, ужо відавочна, што яны маюць патрэбу ў тэрміновай карэкціроўцы. Да такога вываду прыйшлі ўдзельнікі пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якое адбылося вечарам 3 сакавіка. Таму, па прапанове Станіслава Шушкевіча, на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета, якая адкрыецца 11 сакавіка, будуць разгледжаны папраўкі і заўвагі да рада заканадаўчых актаў. Магчыма, на гэтай жа сесіі ў народных дэпутатаў папросяць згоды даць на абмежаваны час надзвычайныя паўнамоцтвы канкрэтнаму кругу асоб для аператыўнага кіраўніцтва крэдытна-фінансавымі справамі Беларусі.

Да такога павароту падзей прывяло абмеркаванне пытання аб правядзенні веснавой сяўбы, якое першапачаткова ў парадку дня пасяджэння значылася як дадатковае. Аднак аграрнікі ўзнялі перад Прэзідыумам столькі праблем, што ў канчатковым выніку ад абмеркавання няхваткі бензіну і гербіцыдаў прысутныя выйшлі на пытанні падатковай, крэдытнай і фінансавай палітыкі. Адзначалася, што рыначныя адносіны ў сферы горад—вёска прымаюць ненармальныя формы. Напрыклад, калгасы і саўгасы Віцебскай вобласці, з якіх банк бярэ за крэдыты 25 працэнтаў, каб разлічыцца за пазыку, толькі ў гэтым годзе будуць вымушаны аддаць паўмільярда рублёў. Лёгка ўявіць, якія ж цэны вымушаны будуць заламаць аграрнікі за сваю прадукцыю, калі звычайныя боты для палявых работ сёння каштуюць ужо 600 рублёў, а ватоўка — 500?

Дыспарытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю не толькі не змяншаецца, але нават і расце. Эксперты падлічылі, што, калі цэны на прадукцыю аграрнікаў выраслі ўсяго ў некалькі разоў, то на сельгастэхніку — у 15—70 разоў. Яны лічаць, што многія вытворцы-манапалісты закладваюць празмерна высокую планавую рэнтабельнасць на прадукцыю для вёскі. Першы намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкома Мечыслаў Гіруць прывёў у гэтай сувязі такі прыклад: раней аб'яднанне «Ваўкавыскцэменташыфер» прадавала тону цэменту за 60 рублёў, цяпер — за 600. Затое дырэктар завода цяпер атрымлівае 12 тысяч рублёў у месяц, а сярэдні заработак па прадпрыемству складае 7,5 тысячы рублёў у месяц.

Зрабілі ўражанне і словы магілёўскага калегі Гіруця Генрыха Яскевіча, які з дакорам сказаў:

— Усе дзяржавы, якія змаглі выйсці з крызісу, зрабілі гэта адным шляхам— накіравepisode шы літаральна ўсе сродкі ў аграрны сектар. Чаму мы гэтага ніяк не зразумеем?

Элементы нармальнай рыначнай эканомікі, на жаль, не прыжываюцца ў аграрным сектары рэспублікі. І, відаць, гэтаму перашкаджаюць кіраўнікі самой галіны. На пасяджэнні прыводзіўся такі факт — міністр Фёдар Мірачыцкі адправіў за сваім подпісам усім кіраўнікам ведамства да раённага ўзроўню тэлеграму, у якой гаворыцца: «...Стрымана і ўважліва пастаўцеся да падбору дадатковых плошчаў. Указанае давядзіце да ведама гаспадарак». Неабходнае растлумачэнне: землеўпарадкавальная служба пачала праводзіць інвентарызацыю плошчаў. Мэта — аддаць незанятыя землі пад фермерскія гаспадаркі, садовыя ўчасткі. Аднак міністр, відаць, лічыць, няхай усё застаецца за калгасамі. Памылковай назваў гэтую тэлеграму Станіслаў Шушкевіч. І калі для міністра на гэты раз усё закончылася добра, то толькі таму, што ён паспеў ужо адазваць назад пасланую дэпешу.

І ўсё ж у цэлым настрой у аграрнікаў Беларусі нядрэнны. У добрым стане выйшлі з-пад снегу азімыя, расшыраецца палетак пад яравыя культуры. І хоць спад вытворчасці сельгаспрадуктаў яшчэ працягваецца, але ён не катастрафічны, як гэта прадказвалі праціўнікі рэформ у вёсцы. Насуперак іх прагнозам пасяўныя плошчы скарачацца не будуць. Пад азімыя цяпер занята на 70 тысяч гектараў больш, чым планавалася. Абсалютная большасць калгасаў, саўгасаў, фермерскіх гаспадарак поўнасцю забяспечаны насеннем для яравой сяўбы. Бадай толькі дзве пазіцыі — забеспячэнне гербіцыдамі і бензінам — выклікаюць сур'ёзныя апасенні. Але ўжо заключаны дагаворы на пастаўку нафты з Татарстана і Казахстана. Пытанне ў тым, ці паступіць яна на перапрацоўчыя заводы Беларусі своечасова. Зрэшты, ёсць і іншы выхад са становішча. Як сказаў кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч, які прысутнічаў на гэтым пасяджэнні, «у самым крайнім выпадку часова паставім на прыкол прыватніка, а ўвесь бензін аддадзім аграрыям».

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета былі абмеркаваны і іншыя пытанні. Аднак парадак дня ў гэты вечар не быў вычарпаны. Пасяджэнне Прэзідыума будзе прадоўжана.

**Уладзімір ГЛОД, кар. БЕЛТА.**

НАШЫ КАНСУЛЬТАЦЫІ

# Як ствараюцца СП?

**У рэспубліцы ў апошні час пачалі ствараецца сумесныя прадпрыемствы. У сувязі з гэтым у рэдакцыйнай пошце з'явіліся пісьмы зацікаўленых чытачоў, якія хацелі б даведацца больш падрабязна аб іх прызначэнні, парадку рэгістрацыі, устаўным узносе. На гэтыя і многія іншыя пытанні рэдакцыя папрасіла адказаць кансультанта Саюза малых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь, кандыдата юрыдычных навук В. ГАРАДНЮКА.**

**— Што такое сумеснае прадпрыемства, хто яго можа стварыць?**

— Сумесным прадпрыемствам на тэрыторыі нашай рэспублікі з'яўляецца гаспадарчы суб'ект, устаўны фонд якога складаецца з долі замежнага інвестара і долі фізічных і юрыдычных асоб Рэспублікі Беларусь.

СП ствараецца звычайна ў форме акцыянерных таварыстваў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю і іншых гаспадарчых суполак і таварыстваў.

**— Раскажыце аб парадку рэгістрацыі СП, куды трэба звяртацца ў першую чаргу.**

— Для рэгістрацыі СП неабходна атрымаць узгадненне гарвыканкома пры яго размяшчэнні на тэрыторыі Мінска. Калі офіс арандуецца, напрыклад, у Мінскай вобласці, звяртацца трэба ў аблвыканком. Дзяржаўная рэгістрацыя СП праводзіцца Дзяржаўным камітэтам па знешнеэканамічных сувязях. Сюды неабходна прадставіць пісьмовыя заявы заснавальнікаў, натарыяльна засведчаныя копіі ўстаноўчых дакументаў (дагавора і статута), дакументы аб плацежаздольнасці замежнага ўдзельніка (з засведчаным перакладам на беларускую мову), выпіску з гандлёвага рэестра аб рэгістрацыі замежнага ўдзельніка (з засведчаным перакладам на беларускую мову), пісьмо на службовае памяшканне пад офіс.

Тэрмін узгаднення дакументаў — 30 дзён, столькі ж яны могуць знаходзіцца і ў вышэйназваным камітэце.

Калі заявы падаюць банкі ці іншыя фінансава-крэдытныя ўстановы з замежнымі інвестыцыямі, то ім неабходна звяртацца ў Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь.

Орган, які ажыццявіў рэгістрацыю СП, абавязаны паведаміць пра гэта ў афіцыяльным друку.

**— Якія грашовыя ўклады павінны быць унесены ва ўстаўны фонд?**

— Удзельнікі СП могуць рабіць уклады як у грашовай форме, так і маёмасцю. Напрыклад, 30 працэнтаў долі ўдзельнік СП можа ўнесці ў СКВ ці рублях (калі рублі замежны ўдзельнік набыў у парадку пераводу валюты ці ў выніку гаспадарчай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі) і 70 — маёмасцю. Гэта могуць быць аўтамабіль, факс, ксеракс, ПЭВМ і іншая маёмасць, якая неабходна СП для ажыццяўлення яго статутнай дзейнасці. Уклад можа быць таксама і толькі ў валюце ці рублях, або ў выглядзе маёмасці — усе гэтыя пытанні абгаворваюцца дагаворам.

Доля замежнага ўдзельніка павінна быць не менш як дваццаць тысяч долараў ЗША. Валюта пры інвесціраванні ва ўстаўны фонд пераводзіцца ў рублі пры вызначэнні ўзносу па камерцыйнаму курсу Нацыянальнага банка.

Неграшовыя ўклады (маёмасць) ацэньваюцца па ўзаемнай дамоўленасці паміж удзельнікамі як у валюце, так і ў рублях, з улікам цэн, што склаліся на спажывецкім рынку.

Калі праз год кожны з удзельнікаў не ўнясе 50 працэнтаў указаных у дакументах укладаў ва ўстаўны фонд, рэгістрацыя прызнаецца несапраўднай, а СП выключаецца са спецыяльнага рэестра.

Бывае, што доля ўкладу замежных удзельнікаў СП ва ўстаўны фонд перавышае 30 працэнтаў. У такім выпадку яно мае права без ліцэнзіі экспартаваць прадукцыю (работы, паслугі) уласнай вытворчасці і безліцэнзійна ўвозіць яе для аналагічных патрэб.

Варта памятаць, што маёмасць, сыравіна і матэрыялы, якія ўвозяцца замежным удзельнікам СП для фарміравання ўстаўнога фонду, вызваляюцца ад уплаты мытнай пошліны і не абкладаюцца падаткам на імпарт.

**— На якія яшчэ асаблівасці варта звярнуць увагу пры стварэнні СП?**

— СП можа ствараць даччыныя прадпрыемствы з правамі юрыдычнай асобы, а таксама філіялы і прадстаўніцтвы на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі з захаваннем умоў, прадугледжаных дзеючымі на тэрыторыі Беларусі заканадаўствам і адпаведным заканадаўствам замежных дзяржаў. Напрыклад, СП мае права адкрыць свой філіял, прадстаўніцтва або даччынае прадпрыемства ў Рэспубліцы Польшча, дзе могуць быць адкрыты разліковы, бягучы і іншыя рахункі ў адпаведных банкаўскіх установах.

СП, ва ўстаўным фондзе якіх доля замежных удзельнікаў складае больш як 30 працэнтаў і ўся выручка ствараецца за кошт уласнай вытворчасці, вызваляюцца ад уплаты падатку на прыбытак на працягу трох гадоў з моманту аб'яўлення прыбытку, уключаючы першы прыбытковы год.

У выпадку калі далейшае заканадаўства Рэспублікі Беларусь пагаршае ўмовы для замежных інвестараў, для замежных інвестыцый на працягу пяці гадоў прымяняецца заканадаўства, якое дзейнічала на момант існавання інвестыцыі.

Замежнаму ўдзельніку гарантуецца права ўласнасці на замежную валюту, якая належыць яму ў выніку размеркавання даходаў, уключаючы перавод яе за мяжу, а таксама на вяртанне яму гэтай валюты пры ліквідацыі сумеснага прадпрыемства або выхаду з яго.

Пры стварэнні сумеснага прадпрыемства і ў перыяд яго дзейнасці трэба кіравацца ў першую чаргу законамі «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб замежных інвестыцыях», іншымі заканадаўчымі актамі рэспублікі.

ФЕРМЕРЫ

# 2. ПЕРШАПРАХОДЦАМ ЗАЎСЁДЫ ЦЯЖКА

**Нататкі з нагоды конкурсу фермераў рэспублікі, ініцыятарам якога стала акцыянернае таварыства «Белаграпрамбіржа».**

Цікавы народ з'ехаўся ў Сенніцу, што пад Мінскам, на конкурс. Нават знешне. Інтэлігентны выгляд, мяккая манера гаворкі, няспешнасць у рухах, касцюм з гальштукам — вось рысы да партрэта пачынаючага фермера са Столінскага раёна Аляксандра Лявонцьевіча Патоцкага. У фермеры ён вырашыў пайсці з пасады намесніка старшыні калгаса «40 год Кастрычніка». Раней 13 гадоў працаваў пераважна галоўным аграномам. Яго жыццёвы прынцып — не спыняцца на дасягнутым. А дэвізам з'яўляюцца словы знакамітага агранома-акадэміка Мальцава: «Ведаць, жадаць, умець і дзейнічаць».

Прыклад Мальцава натхніў Патоцкага на навуковы пошук у аграноміі. Ён не без гонару паведаміў нам аб сваім вынаходстве, якое ўжо запатэнтавана. Сутнасць яго ў наступным. **Замест ядахімікатаў пры доглядзе азімых пасеваў у фазе выхаду раслін у трубку прымяняецца звычайнае ПРЫКАЧВАННЕ.** Гэта ў 13 разоў танней, чым з дапамогай ядахімікатаў, і не ўяўляе небяспекі для навакольнага асяроддзя. Спосаб праверaны на Брэсцкай доследнай станцыі. Вынікі станоўчыя.

І раптам — у фермеры. Патоцкага вабіць і фермерскі лад жыцця. Сям'я ў Аляксандра Лявонцьевіча па сённяшніх мерках вялікая — тры дачкі і два сыны. Яму хочацца, каб выраслі яны сумленнымі, працалюбівымі і дастойнымі людзьмі. Умовы жыцця фермерскай сям'і, лічыць ён, найлепшым чынам будуць садзейнічаць выхаванню дзяцей. Яны, дарэчы, з маленства прывучаны да працы на прысядзібным участку. У свой час сям'я Патоцкіх трымала аж пяць галоў буйной рагатай жывёлы. Тры прадалі і за выручаныя грошы пабудавалі цяпліцу плошчай 600 квадратных метраў.

У сваіх сілах Патоцкія ўпэўнены, але ў раёне чамусьці сумняваюцца. Яны хочуць узяць 50 гектараў зямлі, а ім даюць усяго тры. Гэта доля, што прыпадае на кожны двор ад агульнага калгаснага кліна зямлі. Больш, кажуць Патоцкаму, нельга. Але Аляксандр Лявонцьевіч толькі на выгляд мяккі, а так, адчуваецца, ён чалавек з характарам і поўны рашучасці дабівацца выдзялення плошчы зямлі ў адпаведнасці з законам. Каб можна было разгарнуцца.

Мы заўважылі небяспечную тэндэнцыю: чым больш часу «паварыўся» чалавек у фермерскім катле, тым менш у яго застаецца ўпэўненасці ў добрым зыходзе свайго пачынання.

— Сёння, напрыклад, я б у фермеры не пайшоў. За якія грахі такое пакаранне? Будзе сялянская вайна, вось пабачыце. Вяскоўцы з віламі пачнуць абараняць сваю маёмасць.

Гэты «экстрэмісцкі» прагноз належыць Чэславу Станіслававічу Лабачэўскаму з Астравецкага раёна. У фермерства ён прыйшоў таксама асэнсавана, з намерам рэалізаваць свае здольнасці ў новай справе. Дагэтуль 13 гадоў працаваў галоўным інжынерам у калгасе «Шлях Леніна», потым у райсельгастэхніцы. Цяпер выбраў новы шлях — фермерскі.

Мы разумелі астравецкага фермера. Цэны сёння на тэхніку, будаўнічыя матэрыялы — неверагодныя, а за кілаграм свініны даюць усяго 48 рублёў. Кілаграм жа цвікоў каштуе 25 рублёў. Што тады казаць пра трактар, грузавічок, прычэп? Тым не менш ён не збіраецца здавацца. У барацьбе на выжыванне, як гэта ні дзіўна, бярэ прыклад з калгасаў. Адкрыў падсобны промысел: вырабляе кіпяцільнікі. Мае брокерскае месца на «Белаграпрамбіржы». Такім чынам яшчэ трымаецца на плаву, чакае лепшых часоў.

Як, дарэчы, і Леанід Аляксандравіч Шаўчэнка з Дзяржынскага раёна, таксама адзін з піянераў-фермераў. Ціснуць яго з усіх бакоў, ён гнецца, пакутуе, аднак не паддаецца ні абставінам, ні ліхім людзям. Шкадуе, праўда, што фермерам зброю не дазваляюць набываць. Чым жа бараніцца ад рэкеціраў, якія ўжо спрабавалі накласці на яго даніну? На гэты раз абышлося. Але ці абыдзецца ў наступны?

У адзін рад з рэкецірамі залічвае Шаўчэнка тых службовых асоб, якія ставяць фермерам палкі ў колы. Напрыклад, ён вырошчвае раслінныя культуры без хімічных угнаенняў і даглядае жывёлу без кармавых дабавак, а яго экалагічна чыстую прадукцыю, якая ва ўсім свеце каштуе даражэй, адмаўляюцца прымаць па павышанай таксе. І ніякай управы няма на Мінскі мясакамбінат. Ад калгасаў прымаюць экалагічна чыстую прадукцыю, ад фермераў — не. Дыскрымінацыя!

І паспрабуйце пераканаць Леаніда Аляксандравіча ў адваротным спасылкамі на агульную недасканаласць арганізацыі працэсу работы з фермерамі, што многія «накладкі»— гэта не нечы злосны разлік, а звычайная наша манера весці справы. Ён у адказ з'едліва усміхнецца. Як усміхнуўся Уладзімір Лужнёў, малады фермер з-пад Мінска, калі мы паспрабавалі, як кажуць, на свой капыл растлумачыць адсутнасць у фермераў патрэбнай колькасці тэхнікі недастатковымі магутнасцямі прамысловасці рэспублікі.

— Не трэба казаць, чаго не ведаеце, — даволі рэзка спыніў нас Уладзімір. — Я летась і пазалетась шмат пабадзяўся па розных складах і базах. Сельскагаспадарчай тэхнікі я там бачыў шмат, толькі прадавалі яе за вялікія грошы не нам, а прыбалтам, у прыватнасці літоўцам. Усё гэта байкі пра дэфіцыт. Акрамя таго, трактар нашы тэхнічныя праблемы не вырашае. Да яго яшчэ патрэбен прычапны інвентар, тады ён стане карысчай рэччу, — гаворыць Лужнёў.

— Дзяржава, урад павінны ў першую чаргу паклапаціцца аб тэхнічным забеспячэнні нашых гаспадарак, — зноў уступае ў размову Шаўчэнка. — Каб мы больш давалі спажыўцам гатовай прадукцыі, не трэба ператвараць нас выключна ў пастаўшчыкоў сыравіны: бульбы, гародніны, мяса курэй, буйной рагатай жывёлы, свініны. А я ўжо ў сілах заняцца перапрацоўкай сельгаспрадукцыі, прадаваць, напрыклад, вэнджаніну, смачныя каўбасы. Але дзе ўзяць абсталяванне? — пытаецца ў нас Шаўчэнка.

Пасля «дзе ўзяць?» другім па важнасці, бадай, з'яўляецца, як гэта ні дзіўна, пытанне вядзення бухгалтарскага ўліку фермерскай гаспадаркі, справаздачнасці перад рознымі арганізацыямі, асабліва — перад падатковай інспекцыяй. Як мы ўжо адзначалі, сёння сярод фермераў - першапраходцаў шмат людзей са спецыяльнай сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Але і яны нам з сумам гаварылі пра вялікую складанасць вядзення справаздачнасці.

Што тады казаць пра вясковых хлопцаў, у якіх за плячыма восем класаў ды механізатарскія курсы? Як ім авалодаць «сакрэтамі» папяровай справаздачнасці? Хто іх навучыць? Жыццё? Дык ці застанецца ў людзей пасля гэтай «навукі» жаданне самастойна гаспадарыць на зямлі? Сумняваемся. А можа і так здарыцца, што, знямогшы ў безвыніковай барацьбе з цяжкасцямі, кінуць свой занятак і «дзеючыя» фермеры. Дарэчы, у час конкурсу яны нам паведамілі: ходзяць чуткі, што пяць фермераў ужо вярнулі назад акты на валоданне зямлёй.

Можна было б і далей працягваць знаёміць вас з канкурсантамі, іх надзённымі праблемамі, якіх разам на некалькі дзён сабрала «Белаграпрамбіржа». Навошта ёй гэты клопат? Чаму яна ўзялася за арганізацыю і правядзенне не ўласцівага біржам мерапрыемства? Але гэта тэма наступнай публікацыі.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**
**Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

**На здымках:** секундамер уключаны — конкурс пачаўся; у фермера **Я. Пракопчыка** строгі экзаменатар — старшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага інстытута па тэхабслугоўванню і механізацыі ферм **М. Вішнеўскі**; фермер з Шаркаўшчыны **П. Грыдзюшка**; упэўнена адказвае на пытанні камісіі фермер **Л. Шаўчэнка** з Дзяржынскага раёна.

ЛЮДЗІ І ЦЭНЫ

## КУПІЦЕ САБЕ ЛЕТА!

На Камароўскім рынку сапраўды ёсць усё. Футравыя шапкі і імпартныя акуляры, рознакаляровая касметыка і ласьёны супраць аблысення, замежныя дэтэктывы і першыя айчынныя эратычныя часопісы, разнастайныя цыгарэты, масляныя фільтры, макет царквы, зроблены з запалак...

Розная якасць — розныя цэны. Але ўсё роўна дорага. Купоны «ідуць» па 20 рублёў за сотню. Зусім задарма можна купіць ношаны паркалёвы халацік — прадае бабулька ля ўваходу ў рынaчны павільён.

Камароўка — нібы мініяцюрны адбітак нашага сённяшняга жыцця, мітуслівага, не вельмі радаснага, не вельмі шчырага... І раптам — быццам кавалачак свята, штосьці цёплае, сонечнапрамяністае: мёд ліпавы, кветкавы — украінскі, алтайскі. Купляйце! Кілаграм—200—250 рублёў, амаль удвая даражэй, чым у магазіне. Вельмі дорага?

— Пэўна, дарагавата, — згаджаецца Галіна Іосіфаўна Дзядзюля. — Але ж у магазіне мёд які? Нармалізаваны, штучна даведзены да пэўнай кандыцыі. А па ўтрыманню карысных рэчываў яго і параўноўваць з нашым нельга!

Пчалярскі «стаж» у Галіны Іосіфаўны — два гады. Раней пчолы былі выключна бацькавай справай. Два гады назад бацька памёр.

— Хачу зрабіць помнік, грошы спатрэбіліся. Раней тут не гандлявала — людзі ведалі, што ў мяне пчолы, прыходзілі, куплялі. А цяпер як выхадныя — сюды. І ведаеце, не сорамна. Грошы патрэбны. Дзяржава пра мяне ніяк не клапоціцца— 500 рублёў зарплата, 67 даюць на дзіця — як жыць? Хто нас будзе ўтрымліваць? Абараніла кандыдацкую — нічога яна не дае. Вось пачынаецца вясна, дык цяпер да восені—ля вулляў. Разлічваць прыходзіцца толькі на сябе.

А вось Мікалай Васільевіч Баглай з пчоламі — усё жыццё. Як пачаў калісьці з бацькавай «падачы» ў дванаццацігадовым узросце, так і да сённяшняга дня пчалярыць. Зараз ён даўно на пенсіі, але не страціў ні маладога запалу, ні пачуцця гумару:

— З пчолкамі мы даўно сябруем. Яны да мяне прылятаюць і на вушка расказваюць, дзе мёд збіралі. Я так і пішу: мёд кветкавы, мёд грэцкі... Але ж догляд за імі які патрэбен! Гэта я зараз на пенсіі, а раней, як на «БелАЗе» працаваў... І яшчэ вельмі спрэчна, ці такі ўжо дарагі наш мёд. Зараз наогул межы сцёрліся паміж «дорага» і «танна». Калісьці, як пачынаў, мёд прадаваў па пяць рублёў за кілаграм. Але раней хлеб, памятаеце, колькі каштаваў? І з пчоламі я менш займаўся, ды і маладзейшы быў. Зараз во клешч на іх з'явіўся. Кажуць, з Японіі завезлі. Траўкамі лячу. А цукар? Пяць кілаграмаў атрымліваеш у таварыстве пчаляроў, астатні купляеш у спекулянтаў.

Міма праходзяць людзі. Глядзяць, прыцэньваюцца, просяць пакаштаваць. Але купляць асабліва не купляюць.

— Ой, як цэны растуць! — здзіўляецца пакупніца ў чорным паліто.—Гадоў пяць назад я ў сябе ў цэху сама мёд прадавала, за такі вось слоічак — 4 рублі.

На слоічку ў чвэрць літра цэннік — 160.

...І ўсё ж я купіла сабе кавалачак сотавага мёду. Маленькі кавалачак лета.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

ТВАЁ СЛОВА, ЧЫТАЧ!

## Вучыцца? Навошта!

Нядаўна сустрэла свайго былога вучня.

— Як жывяце, якую пенсію атрымліваеце?— пытаецца ён.

Я адказала.

— Вось дзіва! Вы, настаўніца з вышэйшай адукацыяй. і атрымліваеце ў тры разы менш за мяне, конюха, з сямю класамі адукацыі!

Што тут сказаць!

— А вы памятаеце,— працягваў ён,— як ганялі мяне за ляноту, як угаворвалі вучыцца. Я ж уцякаў з урокаў, не паддаваўся ні на якія ўгаворы. Ледзь-ледзь «дабіў» 7 класаў.— І мой выхаванец хітравата зыркнуў на мяне: — А што, каб паслухаўся вас і пайшоў вучыцца?

Горкі, даўкі камяк сціснуў горла, і я ледзь чутна вымавіла:

— Даруй мне, Міця, відаць, не таму я цябе вучыла. Мусіць, сапраўды ты разумнейшы за мяне, што не слухаўся.

Можа, і праўда, паны-спадары,—навошта тая адукацыя, каму яна патрэбна?

**Іна Васільеўна СТАРАСЦЕНКА,**
**настаўніца-пенсіянерка.**

в. Васільеўка,
Добрушскі раён.

## Прыватызацыя па прынцыпу ўраўнілаўкі

Пасля бяссонных начэй, многіх гадзін роздуму вырашыў напісаць вам, каб хоць такім чынам крыху супакоіцца. А ўзрушыла мяне вось што.

Цяпер шмат гавораць аб прыватызацыі жылля, а ў Маскве пачалася ўжо бясплатная перадача кватэр у асабістую ўласнасць. Не дай Бог, гэта дойдзе і да нас. Якая ж гэта будзе справядлівасць у адносінах да тых, хто пабудаваў дом сам, за свае кроўныя, як кажуць. А такіх, як вы самі пішаце, у вёсцы 73 працэнты, ды і ў горадзе яны ёсць. Людзі недасыпалі, недаядалі, можа, нават не маюць у дамах нічога (асабліва тыя, хто год — два назад пабудаваўся), а іншыя жылі намнога больш раскошна і вось цяпер яны атрымаюць дарагія падарункі ад дзяржавы. Пасля гэтага ўсе будуць плаціць падатак на нерухомасць аднолькава, як я разумею. І гэта будзе так званая «дэмакратыя», сацыяльная справядлівасць?

Альбо я нечага не разумею, альбо ўсе гэтыя дэмакраты і дэпутаты з глузду з'ехалі. Гэта ж будзе амаль так, як пасля 1917 года. І цяпер, выходзіць, пакрыўджаным неабходна абараняць свае інтарэсы гэтак жа, як і тады, — са зброяй у руках? Цікава, што на гэта могуць адказаць тыя дэпутаты, якія будаваліся самі? Можа, хоць адзін-два такія ўсё ж знойдуцца, бо астатнія, напэўна, усе жывуць у дзяржаўных кватэрах, і ім гэты закон толькі на руку.

Тое ж самае можа здарыцца і з фермерствам. Цяпер некаторыя людзі сваім гарбом, за свой кошт нажываюць фермы, гаспадаркі, а возьмуць верх прыхільнікі поўнай капіталізацыі краіны — раздзеляць зямлю і тэхніку, і сённяшнія фермеры застануцца, як кажуць, з носам.

Савецкую ўладу крытыкавалі за беззаконнасць і несправядлівасць, а цяпер большасць простых людзей бачаць, што дэмакратыя нясе ім яшчэ больш беззаконнасці і сацыяльнай несправядлівасці. Хіба не так? У тым жа ведамасным і дзяржаўным жыллі ёсць уклад усіх працоўных, і цяпер тыя, хто жыве ў ім, адно пасміхваюцца з індывідуальных забудоўшчыкаў.

У заключэнне хачу зазначыць, што праект нашага закона мала чым адрозніваецца ад маскоўскай прыватызацыі, бо не так ужо многа ў нас сем'яў, у якіх ёсць больш за 18 метраў на чалавека.

**М. РАКОВІЧ.**

Нясвіжскі раён.

## Сякуць не толькі сук, але і карані

На сумныя думкі наводзіць наступная арыфметыка. У Беларусі на 1.000 жыхароў-гараджан прыпадае 134 пенсіянеры, а ў сельскай мясцовасці — 317. Гэта значыць, «шчыльнасць» пенсіянераў у вёсцы ў 2,36 раза большая, чым у горадзе. Прычына такой сітуацыі добра вядомая. Гэта тая злачынная палітыка ў адносінах да вёскі, у выніку якой сельскія жыхары аказаліся практычна сацыяльна неабароненымі. З-за гэтага ў асноўным і пачало пакідаць яе працаздольнае насельніцтва.

У такім становішчы пажылым вяскоўцам, асабліва пенсіянерам, многія з якіх жывуць у неперспектыўных населеных пунктах, нічога іншага не заставалася, як разлічваць на саміх сябе. А яшчэ на сваіх родзічаў, знаёмых, блізкіх, якія прыязджалі да іх для аказання дапамогі перш-наперш у вырошчванні сельскагаспадарчай прадукцыі, якой сяляне затым дзяліліся са сваімі памочнікамі.

Цяпер такая дапамога будзе рэзка скарочана. Чаму? У сувязі з рабаўнічай лібералізацыяй цэн на праезд у пасажырскім аўтатранспарце за гарадской рысай, дзе ён у большасці выпадкаў з'яўляецца амаль адзіным сродкам зносін. За апошнія ж дзевяць месяцаў кошт такога праезду павысіўся ў 10 з лішнім разоў, і візіты ў сельскую мясцовасць для вельмі многіх цяпер проста не па кішэні. Дапамагалі ж вёсцы ў асноўным малазабяспечаныя, многія з якіх у сувязі з лібералізацыяй цэн апынуліся за рысай беднасці.

Такія адносіны да сельскіх жыхароў, у тым ліку і «праслаўтая» лібералізацыя цэн на пасажырскі аўтатранспарт, прывядуць, калі будзе так працягвацца далей, да скарачэння і без таго беднага збору сельскагаспадарчай прадукцыі. А гэта небяспечна. Падобнымі акцыямі мы сячом не толькі сук, на якім сядзім, але і падсякаем карані ўсяго дрэва.

**А. ЦІТОЎ,**
**Е. ЯГОРАНКАВА,**
**А. ШЫБУТ.**

г. Мінск.

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# Запознены «SOS»!

**Уважліва пачытаў артыкул Анатоля Мяснікова ў газеце «Звязда» ад 12 лютага г. г. «Культура: сігнал «SOS» пададзены». Розныя прыходзяць разважанні. У многім хочацца згадзіцца з аўтарам. Асабліва наконт збяднення культуры, бездухоўнасці, невысокага ўзроўню зарплаты і пенсій яе дзеячаў.**

І, напэўна, у гэтым ёсць віна дзеячаў дзяржаўных, дэпутацкага корпусу. Але трэба ва ўвесь голас сказаць, што вялікі «ўклад» у такі стан культуры і культурнага жыцця ўносілі самі дзеячы культуры, дакладней, дзялкі ад культуры. Яны марылі і мараць аб адным: набіць кішэню «праз культуру», перавесці яе на бізнес. Яны ёсць як сярод саміх «дзеячаў» культуры, так і сярод дзяржаўных «мужоў». Але гэта быў і застаецца, бадай, найвялікшы крок да канчатковага краху сапраўднай культуры, маралі і духоўнасці.

На сексе, насіллі, разбэшчанасці, п'янстве, крымінальшчыне, якія густым патокам запоўнілі кіна- і тэлеэкраны, на жахах і здзекваннях чалавека з чалавека, што стала выходзіць на першы план у айчынным і навязаным людзям замежным тэле- і кінематографе, запоўніла відэасалоны, — культуру Беларусі не адрадзіць.

Я не хачу сказаць, што культура была выдатнай у так званыя часы застою. Але калі кіраўнікі міністэрстваў культуры, кінематографа і іншыя, хто хацеў у культуры «разрушить до основания» тое, што было да «перабудовы», дык яны могуць ганарыцца: гэтую задачу яны выканалі. Але цяпер павінны адказаць: чаго дасягнулі, што маем узамен? Паўпустыя залы ў кіно, тэатрах, музеях, выстаўках. У кіназалы сумленнаму чалавеку сорамна хадзіць. Бо сорамна назіраць побач з дзецьмі насілле і секс. Людзі выключаюць тэлевізары. бо сорамна бачыць, што паказваюць на тэлеэкранах.

У нейкіх вялікіх чыноўнікаў ад культуры, відаць, існуе ўпэўненасць, што ўсё гэта павінна выклікаць адваротны эфект. Але ж ужо колькі гадоў не выклікае. Затое ўкараняецца ў жыццё ўсё тое, што моладзь бачыць з экранаў. Пераймае, падвучваецца ў «добрых настаўнікаў» ад культуры.

Куды падзеліся рэжысёры і сцэнарысты? Здаецца, засталіся толькі фатографы, якія «наказваюць жыццё як яно ёсць». Але такое «жыццё» і ў жыцці абрыдла, не толькі каб глядзець на яго яшчэ і з экранаў. Дзе ж рэжысёр, паглядзеўшы фільм якога, і малому, і старому хацелася быць падобным на героя, рабіць дабро, як герой... Няўжо такія фільмы сталі не прэстыжныя? Няпраўда!

Сёння скардзяцца «майстры пэндзля» на сваю беднасць. Але ж хто будзе плаціць, прабачце, за нешта напэцканае, якое аўтару здаецца шэдэўрам, а для большасці людзей незразумела і проста няміла ні душы, ні сэрцу?! За асабістую шэрасць скардзіцца няма на каго. Талент — прызнаюць.

У артыкуле ўпамянуты імёны многіх сапраўдных майстроў культуры Беларусі, якія збіраюцца ісці на плошчу скардзіцца і патрабаваць разам з народам лепшай долі. Іх можна зразумець. Але не зусім зразумела тое, дзе яны і іншыя таленты былі раней, чаму не падалі «SOS» супраць зруйнавання культуры ў Беларусі тымі «мастакамі» і дзялкамі, якія дапамаглі зрабіць яе такой, якая яна ёсць, дапамаглі сваёй шэрасцю і дзікім бізнесам адбіць сапраўдную цікавасць да культуры і яе становішча як у народа, так і ва ўрада рэспублікі...

Вось такімі думкамі хацелася б дапоўніць артыкул А. Мяснікова. Тым больш, што яны не разыходзяцца з думкамі многіх і многіх людзей, з якімі прыйшлося размаўляць на гэту тэму ў апошнія гады.

**У. БЯЛОЎ.**

г. Гродна.

# Ты—садыст, і я—садыст?..

Неяк на вочы трапіла ўрадавая пастанова аб забароне прапаганды парнаграфіі, насілля і жорсткасці, а на наступны дзень «Крок» паказаў «сюжэцік», які, на мой погляд, ніякіх забарон не прызнае.

Журналістка зацікаўлена брала інтэрв'ю ў зусім маладога «тэарэтыка-даследчыка»... садызму, і той на ахі-вохі субяседніцы аб неардынарнасці, выключнасці і грамадзянскай смеласці яго пазіцыі стрымана-мудра «изрекал истины» наконт таго, што кожны чалавек — крыху садыст, што садызм — гэта зусім натуральна, што кожны, хаця б раз у жыцці, адчуваў вострую радасць ад пакут таго, каму ён зрабіў балюча. Гэтыя «тэарэтычныя» досылы ТБ тут жа ілюстравала «смачнымі» кадрамі з замежнага фільма, дзе жорсткасць, насілле і «парнуха» ў комплексе рэкламавалі самі сябе.

Не выстаўляючы прэтэнзій маладому «тэарэтыку», якому можна дараваць яго заспакаяльныя абагульненні аб наяўнасці садызму ва ўсіх (куды не занясе фантазія юнака ў гіперсексуальным узросце!), лічу магчымым выставіць іх «Кроку».

Заявіўшы калісьці аб сабе ярка і самастойна, ці не здзешавеў «Крок» на «клубнічцы» ды скандальчыках, ці не стаў усяедным? Ці не страцілі журналісты ўнутранага цэнзара — здаровы чалавечы сэнс?

Навошта вам спатрэбіўся гэты «асветніцкі» сюжэт? Ці вы думаеце, што дарослыя людзі не ведаюць, што такое садызм? (Дарэчы, ваша ілюстрацыя падышла б больш да іншага сюжэта — «мазахізм»).

Альбо баіцеся, што юныя душы запозна даведаюцца аб яшчэ адной крыніцы «вострай радасці», якая ёсць у кожным, — радасці катаваць?

Няўжо ж чалавецтва тысячагоддзямі было неразумнейшым за наш «Крок», захоўваючы табу на смакаванне пэўных тэм?! Альбо нам мала яшчэ Міхасевіча?

Ці ў маладзёжнай тэлеперадачы такое разуменне свабоды?

Ніколі не быў ханжой, і ў пытаннях сексу маю сучасныя погляды (праўда, асалоды ў жорсткасці не шукаю), аднак лічу, што такія сюжэцікі зусім канкрэтна могуць служыць ілюстрацыяй да пэўных артыкулаў Крымінальнага кодэксу.

Ці рэклама — гэта не прапаганда, і я памыляюся?

Крыўдна, што такой «усяеднай» становіцца наша культура...

**А. БУРЫ.**

г. Верхнядзвінск.

